# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 11(740) ● 25 сакавіка 1994 г. ● Цана 25 руб.

## УРАДАВАЯ ЎВАГА ДА НАВУКІ

16 сакавіка ў канферэнц-зале Акадэміі навук Беларусі адбыўся яе Агульны сход, які адкрыў прэзідэнт АНБ акадэмік Л. М. Сушчэня. У прэзідыуме пасяджэння, апрача кіраўніцтва акадэміі, ганаровыя госці: старшыня Саўміна рэспублікі В. Ф. Кебіч, намеснік старшыні Вярхоўнага Савета В. М. Кузняцоў і намеснік старшыні Савета Міністраў член-карэспандэнт АНБ М. І. Дзямчук.

Удзел прэм'ер-міністра і намесніка старшыні Вярхоўнага Савета не быў запланаваны парадкам дня. Можна думаць, што на іх прысутнасць на агульным сходзе акадэміі паўплывала яскравае выступленне народнага дэпутата, члена-карэспандэнта В. Г. Ціхіні, што адбылося напярэдадні на ранішнім пасяджэнні Вярхоўнага Савета. Яно транслíравалася па радыё і было паказана ў запісу ўвечары. (Тэкст выступлення В. Г. Ціхіні друкуецца ў сённяшнім нумары газеты).

Пасля даклада Л. М. Сушчэні аб стане і перспектывах развіцця акадэмічнай навукі, прамовы В. Ф. Кебіча аб адносінах урада да ўсяго комплексу праблем навукова-тэхнічнага патэнцыялу рэспублікі і справаздачнага даклада Галоўнага навуковага сакратара прэзідыума АНБ А. М. Ганчарэнкі аб гадавой рабоце прэзідыума АНБ быў аб'яўлены перапынак у агульным пасяджэнні.

Падчас перапынку члены ўрада і кіраўніцтва Вярхоўнага Савета абмеркавалі з членамі прэзідыума акадэміі канструкцыйныя меры па захаванню і развіццю акадэмічнай навукі.

На сходзе са справаздачнымі дакладамі выступілі акадэмікі-сакратары аддзяленняў АНБ. У наступным нумары «Навін» мы мяркуем пазнаёміць чытачоў з найбольш цікавымі матэрыяламі Агульнага сходу АНБ.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.

«Я павінен выказаць задавальненне тым, што ўпершыню за ўвесь час існавання Вярхоўнага Савета знайшоўся дэпутат, які выканаў свае дэпутацкія абавязкі як прадстаўнік навукі. Гэта быў толькі што абраны член-карэспандэнт АНБ, народны дэпутат Валерый Гур'евіч Ціхіня, які ўчора адкрыта, слушна сказаў у Вярхоўным Савеце аб сітуацыі з навукай і аб яе ролі ў адраджэнні рэспублікі».

Прэзідэнт АНБ, акадэмік Л. М. СУШЧЭНЯ.
(З даклада на Агульным сходзе АНБ)

*ВАЛЕРЫЙ ЦІХІНЯ:*

## «ГЭТА — МОЗГ НАШАГА ГРАМАДСТВА»

### ВЫСТУПЛЕННЕ НАРОДНАГА ДЭПУТАТА В. Г. ЦІХІНІ НА ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаныя народныя дэпутаты! Наша рэспубліка, як вядома, небагатая прыроднымі рэсурсамі, але мы можам і павінны ганарыцца іншым багаццем: сваімі інтэлектуальнымі рэсурсамі. Гэтыя рэсурсы не трэба шукаць на вялікай глыбіні — імі трэба разумна распарадзіцца. Па ацэнцы найбуйнейшых спецыялістаў у галіне штучнага інтэлекту Паспелава, Лабунова, Мартынава ў Беларусі сёння сканцэнтраваны велізарныя патэнцыяльныя магчымасці для прамысловага асваення прынцыпова новых, канкурэнтаздольных на сусветным узроўні інфармацыйна-камп'ютэрных тэхналогій. Беларусь зараз уваходзіць у першую шасцёрку краін свету, здольных зрабіць якасны прарыў у гэтай навукаёмістай галіне. Адпаведнае ўрадавае рашэнне павінна быць, на мой погляд, прынята ў гранічна сціслыя тэрміны, паколькі інтэлектуальны патэнцыял рэспублікі, што ёсць у наяўнасці ў гэтай сферы, ужо ўступіў у паласу ведамаснага драблення, са ўсімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

Наша дзяржава сёння знаходзіцца ў цяжкім эканамічным крызісе. Але нават у гэтых экстрэмальных умовах нельга нам эканоміць на навуцы — танная навука, у канечным выніку, дорага абыходзіцца грамадству. Сёння навука, вобразна кажучы, гэта той лакаматыў, які можа выцягнуць беларускую эканоміку з крызісу. На жаль, паліва для гэтага лакаматыва зараз няма, фінансаванне навуковых даследаванняў зведзена да мінімуму, доля расходаў на навуку ў нас зараз складае ўсяго толькі 1 працэнт ад аб'ёму нацыянальнага даходу рэспублікі. Заўважу, што ў гады так званага застою было 4 працэнты.

Мы не павінны забываць аб тым, што развіццём навукі вызначаецца эканамічная моц і багацце любой дзяржавы. Наша рэспубліка стаўку павінна рабіць на навуку, навукаёмістыя тэхналогіі і вытворчасці. Разумнай альтэрнатывы гэтаму ў нас няма.

У 1992 годзе пад дахам Акадэміі навук Беларусі створана грамадскае аб'яднанне пад назвай «Беларускі інтэлектуальны рэсурс». Удзельнікі гэтага аб'яднання абвясцілі высакародную мэту — распрацаваць у гранічна сціслыя тэрміны праект нацыянальнай праграмы «Інтэлектуальная рэспубліка». Распрацоўшчыкі праекта маюць патрэбу ў матэрыяльнай і фінансавай дапамозе.

Я думаю, што такую дапамогу павінен аказаць урад нашай рэспублікі. Сёння нам патрэбны рэспубліканскі інфармацыйны банк ідэй і патрэб, здольны акумуліраваць веды аб інтэлектуальным багацці рэспублікі і паклапаціцца аб іх выкарыстанні.

Навука — гэта мозг нашага грамадства. Калі дапамагчы сёння нашым вучоным сябе праявіць у поўнай меры, можна ў бліжэйшыя гады вывесці Рэспубліку Беларусь у лік самых развітых інтэлектуальных краін свету.

## Па праграме эканамічнай бяспекі

Нядаўна пад старшынствам акадэміка Р. Г. Гарэцкага прайшла чарговая нарада Беларускага рэспубліканскага экспертнага савета па ацэнцы сейсмічнай небяспекі і прагнозу землетрасенняў (БРЭСС) пры Камісіі СМ Рэспублікі Беларусь па надзвычайных сітуацыях. Удзельнікі нарады абмеркавалі справаздачу аб рабоце савета летась і сёлетні план работ, а таксама паведамленні вядучых спецыялістаў Інстытута геалагічных навук АНБ і яго доследна-метадычнай партыі, Дзяржбуда, Белводаканалпраекта, НВК «Космааэралогія», Белгархімпрама па праблемах сейсмічнага забеспячэння экалагічнай бяспекі краіны, уліку сейсмічнасці рэгіёна пры размяшчэнні, будаўніцтве і эксплуатацыі народнагаспадарчых аб'ектаў.

На нарадзе было адзначана, што па ініцыятыве савета ўрадавая камісія па надзвычайных сітуацыях адобрыла складзены Інстытутам геалагічных навук праект дзяржзаказу на сейсмадынамічныя даследаванні Салігорскага прамраёна з мэтай прадухілення сейсмічнай небяспекі пры вядзенні горных работ і негатыўнага ўплыву на экалагічны стан раёна.

Летась, як было відаць са справаздачы, працягваліся даследаванні сейсмічнага рэжыму тэрыторыі рэспублікі. Складзен макет карты сейсмічнага раніравання, выяўлены зоны магчымых ачагоў землетрасенняў інтэнсіўнасцю да 7 балаў і падкрэслена, што дэталізацыя гэтых даных гранічна важная для выпрацоўкі нормаў сейсмічнай бяспекі пры праектаванні і ўзвядзенні народнагаспадарчых збудаванняў. Гэта, у першую чаргу, неабходна для раёнаў размяшчэння аб'ектаў павышанай адказнасці: АЭС, цэнтраў горназдабыўнай прамысловасці, прадпрыемстваў з хімічна небяспечнай вытворчасцю, дамбаў на шлама- і буйных вадасховішчах рэспублікі, спраектаваных і пабудаваных без уліку прыроднай і тэхнагеннай сейсмічнасці.

БРЭСС і Інстытут геалагічных навук АНБ, як вынікае з абмеркавання на нарадзе, бяруць удзел у выпрацоўцы нацыянальных навукова-тэхнічных праграм экалагічнай бяспекі і экалагічнага маніторынгу. Нарада адзначыла навуковае і народнагаспадарчае значэнне прапанаваных НВК «Космааэралогія» даследаванняў па адпаведнаму маніторынгу і ўнесла прапановы, накіраваныя на іх ажыццяўленне.

БРЭСС працягне традыцыйны ўдзел у развіцці міжнародных кантактаў сейсмолагаў, у прыватнасці, у рэалізацыі Пагаднення аб супрацоўніцтве і ўзаемадзеянні ў галіне вывучэння землетрасенняў і прагназіравання сейсмічнай небяспекі, падпісанага кіраўнікамі ўрадаў 11 краін СНД, рыхтуецца да даследаванняў па міжнароднаму праекту НАРСДІП, які мае на ўвазе вывучэнне будовы літасферы Цэнтральнай і захаду Усходняй Еўропы, разам з даследчыкамі Нідэрландаў, Расіі.

Удзельнікі нарады акцэнтавалі неабходнасць утварэння рэспубліканскага навукова-вытворчага сейсмалагічнага цэнтра. Такая прапанова паступіла ад Камісіі СМ РБ па надзвычайных сітуацыях і падтрымана прэзідыумам АНБ. Прынята рашэнне прасіць Міністэрства абароны РБ аб перадачы Цэнтру некаторых аб'ектаў канверсіі для размяшчэння новых сейсмічных і геафізічных станцый.

Такім чынам, галоўным зместам работы па ўхваленаму плану БРЭСС на 1994 г. будзе арганізацыя сейсмалагічных даследаванняў па нацыянальнай праграме экалагічнай бяспекі нашага краю.

А. БАБАРЫКІН,
намеснік старшыні БРЭСС, загадчык лабараторыі сейсмалогіі Інстытута геалагічных навук.

## Мова, культура, суверэнітэт у люстэрку жыцця

### З РАБОЧАГА СТАЛА САЦЫЁЛАГА

У невялікай арміі беларускіх сацыёлагаў работы сёння — непачаты край. Пасля набыцця рэспублікай дзяржаўнага суверэнітэту паўстала шмат праблем, якія патрабуюць дасканальнага вывучэння. Як адчувае сябе Беларусь, стаўшы самастойнай дзяржавай? Якія склаліся адносіны з новымі суседзямі-дзяржавамі: Расіяй, Украінай, Літвой, Польшчай? Наколькі сфарміравана ў жыхароў Беларусі нацыянальная самасвядомасць?..

Аддзел сацыялогіі культуры Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі займаецца планавай тэмай «Культура. Міжнацыянальныя адносіны і нацыянальная самасвядомасць». Ужо праведзена вялікая праца, ёсць пэўныя вынікі, з якімі мяне пазнаёміла старшы навуковы супрацоўнік аддзела Л. А. Агеева. Праўда, папярэдзіла Людміла Аляксандраўна, вынікі гэтыя пакуль толькі папярэднія. Але даваць ім можна.

На пытанне: «У чым павінен праяўляцца суверэнітэт Беларусі?» 64,4 працэнта рэспандэнтаў адказалі, што ў стварэнні для народа больш высокага ўзроўню жыцця; 55,5 — у правядзенні самастойнай эканамічнай палітыкі; 49,4 — у развіцці нацыянальнай культуры; 48,2 — у самастойна праводзімай знешняй і ўнутранай палітыцы; 44,9 працэнта — у павышэнні аўтарытэту сярод іншых дзяржаў. Як бачым, большасць апытаных звязвае суверэнітэт з надзеяй на паляпшэнне свайго дабрабыту.

Абнадзейвае той факт, што наша моладзь актыўна ўключаецца ў працэс нацыянальнага самаразвіцця. Так, 95,1 працэнта апытаных могуць назваць беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, 88,6 — расказаць, як прыгатаваць нацыянальныя стравы, 79,2 — праспяваць беларускую песню і г. д. Не забылі беларусы і пра свае нацыянальныя абрады і традыцыі. Па сацыялагічных дадзеных, найбольш часта ў беларускіх сем'ях выконваюцца наступныя абрады: Вялікдзень (88,2 працэнта), дзень нараджэння, юбілей (87,3), вяселле (80), пахаванне (79,2), радзіны (74,3), Каляды (72,2).

Пытанне ўзаемаадносін нацыянальнасці і нацыянальнай культуры няпростае. Ці можа чалавек, па нацыянальнасці не беларус, лічыць сваёй роднай культурай беларускую? 79,3 працэнта рэспандэнтаў даюць сцвярджальны адказ. Гэта сведчыць пра добрыя перспектывы для далейшага развіцця беларускай культуры на Беларусі, дзе пражывае нямала прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

Беларуская мова. На ёй трэба спыніцца асобна і больш падрабязна. Вось даныя наконт якасці валодання мовай. Беларусы: добра валодаюць — 60,6 працэнта; на ўзроўні чатання — 30,9; на ўзроўні разумення — 8,4 працэнта. Для небеларусаў адпаведныя лічбы выглядаюць так: 45,4; 34,3; 20 працэнтаў. Яны сведчаць, што рэспандэнты маглі б у большасці сваёй размаўляць па-беларуску, але такой патрэбы не адчуваюць.

Мовай зносін у вялікім горадзе выступае руская. На ёй размаўляе 95,1 працэнта апытаных. Пры гэтым роднай мовай для сябе лічаць рускую 73,9 працэнта, беларускую — 33,9 працэнта. Тое, што сума перавышае 100 працэнтаў, тлумачыцца вось чым. Некаторыя рэспандэнты называлі роднай абедзьве мовы.

Вынікі даследаванняў сведчаць: руская мова з'яўляецца сёння мовай як міжнацыянальных зносін, так і ўнутрыдзяржаўных і ўнутрысямейных. У сям'і на роднай мове гавораць пакуль толькі 16,3 працэнта, у той час як на рускай — 91,4 працэнта (дзе-нідзе выкарыстоўваюцца абедзьве мовы).

Спроба сацыёлагаў высветліць установкі рэспандэнтаў на

(Заканчэнне на 2-й стар.)

ВІКТАР ІПАЦЬЕЎ:

# «МЫ ДАЎНО МАГЛІ Б НАКАРМІЦЬ БЕЛАРУСЬ ЧЫСТЫМІ ЯГАДАМІ І ГРЫБАМІ...»

*Віктар Аляксандравіч Іпацьеў — дырэктар Інстытута лесу Акадэміі навук Беларусі (размешчаны ў Гомелі) — па натуры аптыміст. Іншы даўно б ужо махнуў рукой на ўсе свае «лясныя» клопаты, стварыў бы пры інстытуце якое-небудзь камерцыйнае прадпрыемства (а такіх прапаноў хапала) і жыў бы прыпяваючы. Дык не, б'ецца, быццам рыба аб лёд, каб здзейсніць мару свайго жыцця — накарміць жыхароў Беларусі ягадамі і грыбамі прамысловай вытворчасці, г. зн. выключна чыстымі і карыснымі для здароўя.*

***— Ведаю, што вы даўно дабіваецеся пастаўленай мэты. Няўжо і сёння, калі на навуку выдзяляюць грашы, працягваеце верыць у мару?***

— Веру. Таму што ў навуцы без веры нельга. Тым больш вынікі работы пацвярджаюць, што мэта ўпаўне дасягальная. Шкада толькі — час ідзе: ужо два гады нашы дзеці маглі б атрымліваць кожны дзень па шклянцы свежага журавінавага соку, а дарослыя рэгулярна мець на стале смачныя, пажыўныя, і што асабліва важна, нуклідавыводзячыя грыбы.

***— Што для гэтага патрэбна?***

— Зусім няшмат. Падтрымка на месцах, увага з боку ўрада, розных грамадскіх фондаў, кіраўнікі якіх адчуваюць сябе амаль што адзінымі выратавальнікамі «чарнобыльцаў», але на практыцы шукаюць, як павярнуць справу павыгадней для сябе асабіста. Вядома, што на ліквідацыю наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі выдзяляюцца сродкі, і немалыя. Вядома таксама, што не заўсёды яны выкарыстоўваюцца па назначэнню і з эфектыўнасцю. Нашаму ж інстытуту, як ні парадаксальна, для распрацоўкі харчовых гатункаў ягад і грыбоў не выдзелена ні капейкі. А ці ж гэтыя прадукты не патрэбны сёння «чарнобыльцам»?

***— А калі канкрэтна, у чым усё-такі іх каштоўнасць і незвычайнасць?***

— Пачнем з грыба вёшанкі. Гэта ўжо шырока вядомы ў Беларусі гатунак, па смаку нагадвае апенькі. Яго можна есці смажаным, салёным, мачоным, сушаным... Да таго ж, ён выводзіць з арганізма радыенукліды. Хаця і з цяжкасцю, але вёшанкі мы далі пуцёўку ў жыццё. Яе вырошчваюць на Гомельшчыне ўжо больш 20 прадпрыемстваў, а ў рэспубліцы — больш 60, хаця на паліцах магазінаў грыбоў не відаць: іх не хапае. Магчымасці ж займацца гэтай справай ёсць практычна на кожным прадпрыемстве Беларусі: тэхналогія простая, і мы з задавальненнем аказваем дапамогу ўсім, хто жадае. Але ёсць адно «але». Хаця ў Гомелі ўжо створана шэсць лабараторый па вытворчасці міцэлія — галоўнага стымулятара росту — асноўная маточная культура знаходзіцца ў інстытуце. І калі мы не будзем яе падтрымліваць і стымуляваць, то праз пэўны час яна проста можа сябе зжыць альбо выраджіцца. Так што супрацоўнікі лабараторыі пастаянна аб ёй клапоцяцца. А грошай на гэта няма. Даводзіцца ўтрымліваць лабараторыю за кошт сродкаў, якія выдзяляюцца для іншых службаў інстытута.

Практычна на грамадскіх пачатках і энтузіязме нашых супрацоўнікаў прыстасоўваем да мясцовых умоў кітайскія грыбы «сітакі» і «аерыкулярыю». Першы, які мы ўжо атрымалі ў лабараторных умовах, па даных сусветнай навукі, блакіруе супрацьпухлінныя захворванні, другі з'яўляецца кроветворным. А між іншым медыкі рэспублікі крычма крычаць аб росце анкалагічных і эндакрынных захворванняў. Я не магу гарантаваць, што ўжыванне ў ежу гэтых грыбоў можа спыніць гэты рост. Але ў любым выпадку ўкараненне іх у вытворчасць не будзе бясплоднай тратай грошай. Урэшце рэшт, гэты прадукт харчавання дапоўніць наша даволі сціплае зараз меню.

***— Шмат валюты трацiцца на закупку імпартных прадуктаў і дзіцячага харчавання, а на вашы тэхналогіі, за якія і плаціць не трэба, выходзіць, нуль увагі...***

— Я гэтага таксама не разумею. Чатыры гады мы вядзем перапіску з Гомельскім гарсаветам, пачалі яшчэ пры мінулай уладзе. Вельмі спадзяваліся на цяперашнюю, якая ў ходзе перадвыбарнай кампаніі вельмі выступала за чарнобыльскія інтарэсы. У прыватнасці, просім вярнуць старое памяшканне нашага інстытута, у якім маглі б устанавіць лінію па вытворчасці журавін. Калі мы гэта зробім, то нашы дзеці, як і амерыканскія, змогуць штодзённа атрымліваць журавінавы сок, аб каштоўнасці і пажыўнасці якога вядома і харчавікам, і медыкам. Дык вось, пытанне аб перадачы памяшкання з месца пакуль што спіхнуць не ўдаецца. Мела б яно якое-небудзь стратэгічнае значэнне для гарсавета! Дык не — у ім размешчана малое прадпрыемства, вядома ж, далёкае ад чарнобыльскіх клопатаў. Дайшло да таго, што гарсавет нам прапанаваў асвабаніць гаражы і пабудовы інстытута, дзе размяшчаюцца эксперыментальныя майстэрні і шэраг дапаможных службаў. Шкада мне маленькіх гамельчан: пакуль будуць ламаць коп'і палітыкі, пераліваць з пустога ў парожняе, прымаць адарваныя ад жыцця рашэнні,— упусцім час. А ён для здароўя «чарнобыльцаў», па праўдзе кажучы — золата.

**Віктар КОТАЎ.**
**(«7 дзён»)**

БАНК ІДЭЙ І ПРАПАНОЎ

## НАСТУПНЫ ПРЫПЫНАК — «СУСВЕТНЫ РЫНАК»?

Ідэя стварэння ў Беларусі на базе акадэмічнай газеты «Навіны АНБ» банка ідэй і прапаноў, выказаная ў нумары ад 17 снежня 1993 г., заслугоўвае безумоўнага прызнання. Але «інфармацыйны трамбоз», аб якім піша У. Траццякоў, трэба ўстараняць і больш радыкальнымі метадамі. Самастойная дзяржава, якой з'яўляецца сучасная Беларусь, прызвана мець сваё даведачнае выданне тыпу «Хто ёсць хто ў навуцы», якое магло б выпускаць, напрыклад, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя». Даведнік «Хто ёсць хто» павінен выходзіць у сусвет у выглядзе асобных выпускаў, а таксама на машынных носьбітах. Адпаведная рэклама забяспечыць яго камерцыйную акупнасць. Артыкулы ў ім будуць рыхтавацца на аснове стандартных анкет, запоўненых людзьмі навукі. Стандартызацыя анкет дапамагла б у стварэнні рознага віду паказальнікаў, якія б павялічылі зручнасць карыстання даведнікам.

Нядаўна ў Беларусі пабывала місія ААН. Ей было даручана распрацаваць праграму дапамогі беларускай навуцы з мэтай устанаўлення карысных сувязей з зарубежнымі навуковымі ўстановамі і фірмамі і выхаду ў канечным ліку на сусветны рынак навукаёмістай прадукцыі. У час знаходжання ў рэспубліцы місія ААН здолела, праўда, толькі часткова пазнаёміцца з беларускім навуковым патэнцыялам. Аднак і гэтыя фрагментарныя звесткі далі падставы зрабіць вывад: у Беларусі «назапашаны найбагацейшы вопыт у галіне даследаванняў і распрацовак, які мае патэнцыял на многія мільярды долараў камерцыйнай вартасці».

Эксперты ААН мяркуюць ужо ў бліжэйшы час даць канкрэтныя прапановы па стымуляванню выхаду нашай рэспублікі на сусветны рынак шляхам выбару зарубежных партнёраў і заключэнню з імі рознага роду кантрактаў і дзелавых пагадненняў. На гэты раз будзе распрацавана сумесная праграма з урадам рэспублікі, для чаго ў навучальныя і навуковыя ўстановы накіраваны адпаведныя запросы.

Раней на пасяджэнні ў Люксембургэ было прынята рашэнне аб фінансаванні сумесных з заходнееўрапейскімі партнёрамі работ па камп'ютэрнай лінгвістыцы. Шэраг ініцыятыў праявіў і Фонд Сораса. Ва ўсім гэтым уражвае актыўнасць заходніх устаноў і навуковых арганізацый на фоне нашага бяздзеяння і раўнадушша. Навуковыя дасягненні ў нас не заахвочваюцца, болей таго, яны проста невядомы тым, ад каго ў значнай ступені залежыць лёс нашай навукі і, значыць, лёс рэспублікі ўвогуле. Нашы патэнтныя службы знаходзяцца ў жаласным стане, няма дагэтуль эфектыўнай экспертызы,— г. зн. таго, з чым не маюць праблем нашы зарубежныя калегі нават у нашай жа краіне.

Так, нам патрэбен банк ідэй і прапаноў, нам патрэбна выданне тыпу «Хто ёсць хто ў беларускай навуцы», нам патрэбны багатыя патэнтна-ліцэнзійныя службы, здольныя арганізаваць незалежную экспертызу, нам патрэбны разнастайныя сродкі ачышчэння нашай навукі ад калянавуковага баласту.

В. МАРТЫНАЎ,
заслужаны дзеяч навукі
Беларусі, прафесар, доктар
філалагічных навук.

ЗНАЁМЦЕСЯ: НОВАЯ ЎСТАНОВА

## «Неістотна, якая канцэпцыя. Важна, каб яна была і дзейнічала»

*Пад дахам БГПА, у 11-а корпусе, размясцілася новая ўстанова — Інстытут прыватызацыі і менеджменту. Наш карэспандэнт сустрэўся з віцэ-прэзідэнтам інстытута* ***Паўлам Уладзіміравічам ДАНЭЙКАМ*** *і задаў яму некалькі пытанняў, што датычацца інстытута і яго дзейнасці.*

**— Прыватызацыя зараз — на языку ва ўсіх. Вось, нават інстытут створаны. Раскажыце пра яго, калі ласка. Калі і з якімі мэтамі ён заснаваны? Што ўжо ўдалося зрабіць?**

— Інстытут створаны ўрадам, дакладней, камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю (45 працэнтаў ад усяго ўстаноўчага ўзноса), Фондам Сораса — Беларусь (таксама 45 працэнтаў) і цэнтрам прыватызацыі ў Варшаве (астатнія 10 працэнтаў). Дакумент аб яго стварэнні падпісаны ў снежні прайшоўшага года, зарэгістраваліся ж мы ў студзені гэтага года.

Наша галоўная задача — садзейнічаць станаўленню рыначнай эканомікі ў Беларусі, распаўсюджваючы веды аб рыначных установах і кіраванні прыватнымі прадпрыемствамі. Гэта значыць, наша прызначэнне — аказваць падтрымку ўраду рэспублікі ў яго прыватызацыйнай дзейнасці. Па сутнасці, мы навучальная ўстанова, толькі навучэнцы нашы — дарослыя. Але ёсць у нас і даследчыя функцыі, і выдавецкія. Увогуле ж мы больш настроены на распаўсюджванне інфармацыі, чым на яе стварэнне.

Што паспелі зрабіць? Адзінай значнай акцыяй у нас пакуль што было правядзенне міжнароднага семінара «Метады і тэхніка рэструктуралізацыі буйных прадпрыемстваў» (на вопыце Францыі, Польшчы, Германіі, Расіі, Беларусі).

**— Беларускія ваўчэры — імянныя. Як вы ставіцеся да такога рашэння? Права ж распараджацца ўласнасцю будзе, здавалася б, моцна ўрэзанае?**

— Так, станаўленне фондавага рынку ад гэтага ўскладняецца, але затое змяншаюцца і магчымасці спекуляцый. Цяжка сказаць, ці такі варыянт найлепшы. Я б нават сказаў, што не так істотна, якая канцэпцыя пакладзена ў аснову. Важна, каб хоць нейкая была і дзейнічала.

Вось, напрыклад, лаюць чубайсаўскую мадэль. Але яна ж выконвае сваю задачу: ідзе выбуховая прыватызацыя. Удалося перакласці праблемы выжывання на многія прадпрыемствы адразу. І ўжо з'явіўся клас уладальнікаў.

Палякі пайшлі іншым шляхам. Яны стымулююць развіццё прыватнага сектару. Там на рынак прапануюць найбольш паспяхова функцыяніруючыя прадпрыемствы, у адрозненне ад Расіі, дзе, як правіла, прадаюцца «ляжачыя».

У Чэхіі вядзецца хуткая прыватызацыя. Метад, якім там карыстаюцца,— гэта стварэнне чэкавых фондаў. І яшчэ, што вельмі важна, праводзіцца так званая санацыя прадпрыемстваў. Гэта значыць, ідзе змена кадраў, вызваляюцца залішнія работнікі, мяняецца тэхнічнае аснашчэнне.

**— Ці слушна будзе сказаць, што чэшскі варыянт прыватызацыі патрабуе ад грамадства найбольш высокай культуры, цывілізаванасці?**

— Слушна.

**— А на што ж больш за ўсё падобна беларуская прыватызацыя?**

— На чэшскую. І менавіта таму такая вялікая роля — асветніцкая, прапагандысцкая, настаўніцкая,— нашага інстытута прыватызацыі і менеджменту.

**Гутарку вёў**
**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

## Мова, культура, суверэнітэт у люстэрку жыцця

З РАБОЧАГА СТАЛА САЦЫЁЛАГА

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**моўную перспектыву прывялі да наступных вынікаў: 43,7 працэнта апытаных жадаюць вучыць сваіх дзяцей на дзяржаўнай мове, 69,8 — на рускай.**

**Тое, што многія аддаюць перавагу рускай мове, не трэба ўспрымаць літаральна і рабіць адпаведныя высновы. Працэс беларусізацыі яшчэ толькі пачаўся, не ўсе пакуль яго ўсвядомілі. Паглядзім, у які бок зменіцца моўная сітуацыя праз год-другі.**

**А каго ўвогуле можна лічыць беларусам? Паводле сацыялагічных даследаванняў, таго, хто: ведае традыцыі народа, яго гісторыю і культуру (56,7 працэнта), удзельнічае ў адраджэнні нацыянальнай культуры (40,4), гаворыць па-беларуску (31,8), у пашпарце пазначаны як «беларус» (6,9), большасць свайго жыцця правёў на Беларусі (24,5).**

**Аддзел сацыялогіі культуры правёў нядаўна вось якое апытанне. Рэспандэнтам было прапанавана назваць станоўчыя і адмоўныя рысы беларуса (не як жыхара Беларусі, а як прадстаўніка нацыі). Тыповаму беларусу вачыма саміх беларусаў характэрны наступныя рысы: станоўчыя — спакойны, гасцінны, працавіты, цярплівы, чэсны, дабрадушны, прыгожы, разумны, ураўнаважаны, памяркоўны (усяго названа 109 рыс); адмоўныя — пасіўны, даверлівы, нерашучы (усяго 60).**

**Вывучаліся таксама ўяўленні беларусаў пра сваіх суседзяў. Аказваецца, мы лепш за ўсіх ведаем рускіх і палякаў. Тыповага паляка беларусы надзялілі 161 рысай (небеларусы — 112). Небагата мы ведаем пра літоўцаў.**

**Цікавыя даныя па яўрэях. Калі беларусы ахарактарызавалі іх усяго 57 рысамі, то небеларусы і таго менш — 35. Не поўнае ўяўленне пра людзей яўрэйскай нацыянальнасці прывяло да стварэння пэўных стэрэатыпаў адносна іх.**

**Хоць лічыцца, што на Беларусі абстаноўка ў плане міжнацыянальных зносін спакайнейшая, некаторая непрыязнасць да людзей іншай нацыянальнасці (асабліва да яўрэяў, цыган і асоб каўказскай нацыянальнасці) часам сустракаецца. Найбольш часта такую сітуацыю можна сустрэць у чэргах, транспарце і на базары. Радзей — на рабоце і ў бальніцы.**

**Апытаныя рэспандэнты назвалі некалькі прычын, што выклікаюць непрыязнасць да «чужых» з боку мясцовага насельніцтва:**

**— стварэнне напружанай абстаноўкі ў месцы знаходжання (49 працэнтаў),**

**— яны (г. зн. «чужыя») лічаць, што ўсё прадаецца і купляецца (43,7),**

**— вядуць сябе, як гаспадары (49,4),**

**— імкнуцца нас падмануць (31,8),**

**— зняважліва ставяцца да нашай культуры (17,6).**

**На заканчэнне прывяду вынікі сацыялагічнага апытання па праблеме «Каштоўнасці, якія займаюць значнае месца ў жыцці мінчан». 90,6 працэнта апытаных назвалі нормы паводзін, адносін паміж людзьмі; 87,7 — мастацтва, музыку, тэатр, кнігі; 75,1 — навакольную прыроду. І толькі 33,1 працэнта рэспандэнтаў папоўнілі гэты спіс палітыкай.**

**Алесь ЮРЫН.**

27 САКАВІКА — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ТЭАТРА

# З плеяды першых

Ганаровае званне заслужанага артыста нашай рэспублікі ўпершыню было прысвоена ў 1928 годзе. Яго атрымаў выдатны рэжысёр і тэатральны дзеяч Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч. А сярод артыстаў гэтага пачэснага звання першым быў удастоены адзін з буйнейшых акцёраў нашага часу Уладзімір Мікалаевіч Крыловіч у 1931 годзе.

Працаваў ён у Першым Беларускім дзяржаўным тэатры (цяпер гэта Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) з 1921 года. Нягледзячы на сваё адносна нядоўгае жыццё (У. Крыловіч памёр ва ўзросце 41 года), ён пакінуў вельмі яскравы след у тэатральным мастацтве рэспублікі і краіны. Валодаючы яркімі сцэнічнымі данымі, выдатнай акцёрскай школай, высокай культурай беларускай мовы, артыст стварыў каларытныя, яскравыя вобразы Машэкі, Кастуся Каліноўскага ў аднайменных п'есах Е. Міровіча, Сцяпана Крыніцкага («Паўлінка» Я. Купалы), Кручкова («Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцынкевіча) і іншых.

У 1930 годзе Е. Міровіч паставіў у Першым БДТ п'есу «Гута» маладога тады яшчэ драматурга Рыгора Кобеца. Гэта была першая значная беларуская п'еса на тэму індустрыялізацыі рэспублікі. Як піша адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Павел Пруднікаў: «Я добра памятаю, як грымела слава Рыгора Кобеца, дзякуючы поспеху яго «Гуты». У таленавітым спектаклі Е. Міровіча галоўную ролю старога рабочага Мароза вельмі ярка выконваў У. Крыловіч. «Стары рабочы, заклапочаны вынаходніцтвам, паказаны так усебакова, у стольkіх разнастайных апасрэдніччаннях, што нельга не бачыць у ім сапраўдна жывы вобраз, выхаплены з гушчы беларускіх рабочых»,— пісаў адзін з маскоўскіх крытыкаў пасля паказу «Гуты» на Усесаюзнай алімпіядзе нацыянальных тэатраў у Маскве ў 1930 годзе.



У. Крыловіч унёс немалы ўклад і ў станаўленне беларускага нацыянальнага кінематографа. У 1933 годзе па сцэнарыю Р. Кобеца (рэжысёр Э. Аршанскі) быў зняты першы гукавы мастацкі фільм на беларускай мове «Двойчы народжаны». Прафесійна ўдалы фільм аб'ектыўна паказваў жыццё і побыт тагачаснай беларускай вёскі. Галоўную ролю ў ім — былога батрака, фізічна моцнага і вельмі абаяльнага маладога чалавека Рыгора Лапуха — таленавіта сыграў У. Крыловіч. Запамінальнай была і яго работа ў кінафільме «Дняпро ў агні», дзе артыст стварыў вобраз атамана плытагонаў — асілка Нічыпара Чэха. Карціна выйшла ў пракат у 1937 годзе, і адным з аўтараў сцэнарыя яе быў Рыгор Кобец (дарэчы, 95 гадоў з дня нараджэння яго споўнілася ў мінулым годзе).

Народны артыст СССР, выдатны акцёр купалаўскага тэатра Л. Р. Рахленка ўспамінаў: «Помню «жывыя» размовы пра Крыловіча ў трыццатыя гады. Тады яшчэ не было ні Дома акцёра ў Маскве, ні Цэнтральнага Дома работнікаў мастацтваў. А быў у Піменаўскім завулку такі маленькі падвальчык, дзе збіраліся дзеячы тэатра. І вось там адбываліся вельмі цікавыя дыскусіі, сустрэчы. У жывых размовах гаварылі аб тым, што Крыловіч — акцёр такога маштабу, як у Грузіі — А. Харава, а на Украіне — А. Бучма. Вось так каціраваўся Крыловіч сярод нацыянальных тэатраў — як вялікі майстра, вялікі мастак, вялікі чалавек! Гэта быў мой любімы, чэсны і на рэдкасць праўдзівы, надзвычай таленавіты чалавек і акцёр!»

Пахаваны першы заслужаны артыст нашай рэспублікі — У. М. Крыловіч — у Мінску, на Вайсковых могілках

Людміла ЛЯВОНАВА.
Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ.

НА ЗДЫМКУ: У. Крыловіч у ролі рабочага Мароза. Спектакль БДТ-1 «Гута» па аднайменнай п'есе Р. Кобеца. 1930 год.

# Навуковы поспех і яго шлях да практыкі

У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ

Лабараторыя хіміі стэроідаў Інстытута біяарганічнай хіміі АН Беларусі зацікавіла з той прычыны, што яе супрацоўнікі знайшлі магчымасць павышэння ўраджайнасці культур без шкоды для навакольнага асяроддзя.

Экалагічна чыстыя агратэхналогіі сёння сталі праблемай планетарнай. Бо надта доўга дагэтуль экалогія хадзіла ў агранамічнай навукі ў падчарыцах. Надта доўга не зважала чалавецтва на пагрозлівае бязмежжа ў прымяненні пестыцыдаў, на тальную хімізацыю сельскай гаспадаркі. І толькі калі асобныя сігналы трывогі зліліся ў суцэльны набатны гул, людзі нарэшце схамянуліся.

Праўда, і цяпер інтэнсіфікацыя раслінаводства вельмі часта грунтуецца на прэпаратах, якія, садзейнічаючы нарошчванню масы каліў, адначасова з'яўляюцца адмоўным экалагічным фактарам. Таму вытворцы сельгаспрадукцыі вымушаны ахвяраваць яе колькасцю, адмаўляючыся ад хімікатаў у інтарэсах захоўвання прыроды і здароўя чалавека. Асабліва там, дзе закон дастаткова жорстка вызначае гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі шкодных рэчываў у прадуктовых таварах.

Тым не менш напоўненасць гандлёвых паліц застаецца задачай, далёка не ўсюды вырашанай. У прыватнасці, у дзяржавах, што ўтварыліся на тэрыторыі былога СССР, у той жа Беларусі. І размова ідзе не пра «заморскія» тавары, а, перш за ўсё, айчыннай вытворчасці. Бо аднымі прывазнымі «дзівосамі» шматмільённы народ не накарміць: і цэны высокія, і не навозішся. Ды і сваю вытворчасць трэба мець і развіваць.

Вось чаму гутарка з доктарам хімічных навук, загадчыкам лабараторыі хіміі стэроідаў **Уладзімірам Аляксандравічам ХРЫПАЧОМ,** які, да таго ж, займае пасаду намесніка Галоўнага вучонага сакратара і начальніка аддзела планавання навуковых даследаванняў і справаздачы прэзідыума Акадэміі навук Беларусі, падалася актуальнай.

**— Што ж гэта за цудадзейны эліксір урадлівасці, адкрыты вамі і вашымі супрацоўнікамі?**

— Давайце адразу расставім кропкі над «і». Адкрыццё гэта не наша, адкрыў брасінастэроіды амерыканец Мітчэл з супрацоўнікамі ў 1970 г. Тады з пылку рапсу (ад яго лацінскага найменне і паходзяць тэрміны «брасіналід», «брасінастэроід») амерыканцам удалося выдзеліць маслападобную фракцыю, якая эфектыўна стымулявала рост, у дадзеным выпадку, фасолі.

**— І гэта было зусім невядомае навукоўцам рэчыва?**

— Чаму? Гэта быў свайго роду знаёмы незнаёмец. Справа ў тым, што шматлікія звесткі, назапашаныя навукай да сярэдзіны 60-х — пачатку 70-х гадоў, сведчылі пра наяўнасць у раслінах, побач з вядомымі фітагармонамі, рэчываў неўстаноўленай прыроды, якім уласціва рэгулятарнае дзеянне. Тагачасныя спробы выдзеліць і ідэнтыфікаваць іх аказаліся няўдалымі з-за гранічна мізэрнай іх канцэнтрацыі і колькасці ў калівах. Аднак ужо тады японскія навукоўцы здолелі вызначыць, што гэтыя рэчывы маюць выключнае ростастымулюючае ўздзеянне.

І вось іх амерыканскія калегі на падставе дакладнага аналізу прапанавалі сваю версію: выяўленыя рэчывы складаюць новую групу фітагармонаў. І яны, гэтыя фітагармоны, прысутнічаюць у розных раслінах.

**— Чым жа брасіны, брасінастэроіды (БС), як найменаваны новы клас рэчываў у «гонар» рапсу, гэтак заінтрыгавалі даследчыкаў?**

— Менавіта сваім магутным рэгулятарным дзеяннем.

**— Напрыклад?**

— Ужо напачатку Мітчэл з калегамі заўважылі, што атрыманая імі фракцыя выгадна адрознівалася сваім стымулюючым уздзеяннем на рост фасолі ад вядомага гіберэліна $A_3$. Аднак, каб атрымаць адзін з групы БС у чыстым выглядзе, спатрэбілася аж дзевяць гадоў пасля першага поспеху. Гэта здарылася ў 1979 годзе, калі з 40 кілаграмаў пылку рапсу, сабранага пчоламі, было выдзелена 4 міліграмы (!) крышталічнага брасіналіду. За брасіналідам пайшлі і іншыя прадстаўнікі БС.

**— Цікавая гісторыя. І ўсё ж гэта толькі гісторыя. А якая сённяшняя рэальнасць?**

— Аповед пра сённяшні лёс БС трэба пачаць са зноў жа гістарычнай прэамбулы. І заключаецца яна ў тым, што амерыканцы адмовіліся працягваць даследаванні ў гэтым накірунку як неперспектыўныя. Мяркуйце самі: з 40 кілаграмаў кветкавага пылку толькі 4 міліграмы рэчыва. У 10 мільёнаў разоў менш!

**— Выходзіць, лёс БС незайздросны...**

— Вы недалёкія ад ісціны, аднак прычыны тут не тыя, што вы думаеце. Сапраўды, здабываць БС з раслін — аўчынка, не вартая вырабу, нягледзячы на тое, што на гектар пасеваў дастаткова ўсяго дваццаціміліграмовай (!) дозы БС.

**— Нават не верыцца, што такая драбяза можа аказаць нейкі ўплыў на дзесяткі тысяч і больш каліў.**

— Вось у гэтым якраз гвозд праблемы. Вельмі ўжо спакуслівa было злавіць жар-птушку ўрадлівасці. Так, атрыманне прыроднага брасіналіду, як ужо моўлена, не вартае свечак. А што калі сінтэзаваць яго, ці падобны да яго іншы БС?

Надзвычай высокая біялагічная актыўнасць БС прывабіла ўвагу навукоўцаў, якія займаліся сінтэзам і выдзяленнем прыродных злучэнняў, вывучэннем іх уласцівасцей, распрацоўкай новых прэпаратаў для патрэб сельскай гаспадаркі.

На гэта і мы кінулі ўсе свае сілы. Ажыццяўленне задумы мы не лічылі нерэальным. Сінтэз і вывучэнне біялагічных уласцівасцей БС у тагачасным СССР пачаліся менавіта ў Інстытуце біяарганічнай хіміі АН БССР адразу ж пасля першых паведамленняў пра выдзяленне і ўстанаўленне структуры брасіналіду. І гэта з'явілася для нас не больш як працягам ранейшых работ у галіне прыродных поліоксістэроідаў. Работ, што праводзіліся школай акадэміка АН Беларусі А. А. Ахрэма.

Падхлiствала і тое, што ў нас былі сур'ёзныя канкурэнты за мяжой. Даследаванні ў галіне штучнага ўзнаўлення БС з вялікім размахам разгарнуліся ў ЗША, ФРГ, Кітаі, былой ЧСФР і, асабліва, у Японіі.

Не магу не прыгадаць кур'ёзны выпадак, звязаны з прапанаваннем ужо сінтэзаваных фітагармонаў класа БС на міжнародным рынку. Свае ўзоры прэпаратаў прывезлі ў СССР прадстаўнікі Японіі, і ўжо абмяркоўвалася пытанне аб правядзенні іх прамысловых выпрабаванняў. Але мы нагадалі аматарам імпартных навінак, што матэрыялы нашых доследаў, нічым не горшыя, даўно пыляцца на паліцах іхніх службовых шафаў. Гэта падзейнічала.

**— Такім чынам, акрэсліваецца нешта накшталт «хэпі энда», а мы гаварылі пра незайздросны лёс новага класа фітагармонаў. Да таго ж і праца лабараторыі атрымала высокую ацэнку нават ужо тым, што вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. І адзначана медалём Усерасійскага выставачнага цэнтра (былая ВДНГ СССР).**

— Усё не так проста. Бясспрэчна, навуковым вынікам можна і парадавацца. Больш таго, эфектыўнасць прэпаратаў пацверджана практыкай. Тут і дылетанту зразумела, што лепш: кілаграмы традыцыйных пестыцыдаў, якія не з'яўляюцца бясшкоднымі для карыснай глебавай флоры і фауны, або некалькі міліграмаў БС, якія не наносяць ніякай шкоды і прытым больш тэхналагічныя. Унясенне іх, як правіла, сумяшчаецца з іншымі аперацыямі і патрабуе менш затрат на палявую дастаўку.

Неабходна адзначыць такую каштоўную якасць, як універсальнасць уздзеяння БС на расліны. Выбар пэўных дозы, спосабу і тэрміну апрацоўкі, гатунку можа прыводзіць да розных вынікаў, як паскараючы, так і затармажваючы працэсы росту або не ўплываючы на іх. Праведзеныя доследы паказалі, што БС садзейнічаюць павелічэнню масы калосся і колькасці зерня на колас пшаніцы; запавольваючы рост сцябла, у той жа час значна павышаюць ураджайнасць за кошт падаўжэння коласа, павелічэння колькасці зярнят у ім. Аналагічнай статыстыкай характарызуюцца доследы з рысам, кукурузай, бульбай, бабовымі, агароднінай. Нарэшце, брасінастэроіды зарэкамендавалі сябе ў якасці ахоўнікаў раслін ад салявых і тэмпературных стрэсаў, іншых неспрыяльных фактараў асяроддзя. Усё гэта дазволіла паспяхова прайсці дзяржаўныя выпрабаванні і атрымаць дазвол на іх прымяненне.

**— Увесь гэты пералік станоўчых характарыстык мае дачыненне пакуль толькі да даследчай часткі работ.**

— Што датычыць практыкі, то тут безагаворачным пазітывам з'яўляецца адно — хуткі пераход ад фазы даследавання і вывучэння да фазы практычнага ўвасаблення. Ці больш правільна — да пачатку гэтай фазы. А далей, на вялікі жаль, справа застапарылася. Найбольш прыкра, што навуковы напрамак, у якім наша рэспубліка была адным з сусветных лідэраў, зараз амаль не мае развіцця. А ён жа толькі ў практычным плане (не кажу ўжо пра навуковы) абяцае выдатныя вынікі. Эфектыўнасць створанага прэпарату настолькі высокая, што нават невялікая доследная ўстаноўка можа забяспечыць патрэбу ў ім для ўсёй Беларусі. Замінае гэтаму, несумненна, эканамічны развал у рэспубліцы з усімі вынікаючымі адсюль нястачай, дэфіцытамі, адсутнасцю сродкаў і г. д.

**— І тым большай павагі заслугоўваюць людзі, з якімі вы, Уладзімір Аляксандравіч, прыйшлі да прэстыжнага для Беларусі навуковага поспеху.**

— Безумоўна, іх трэба назваць уголас. Гэта вядучыя навуковыя супрацоўнікі, кандыдаты хімічных навук Уладзімір Мікалаевіч Жабінскі, Маргарыта Іванаўна Завадская і Раіса Паўлаўна Літвіноўская, а таксама кандыдат хімічных навук Вячаслаў Канстанцінавіч Альховік, які цяпер ужо робіць не ў нашай лабараторыі, а сам узначаліў лабараторыю арганічнага сінтэзу ў хіміка-тэхналагічным цэнтры нашай акадэміі. Карыстаючыся выпадкам, яшчэ раз дзякую ім за шчырае супрацоўніцтва.

Суразмоўцам У. ХРЫПАЧА быў Р. ЛЕВІН.

## ПА СТАРОНКАХ ГАЗЕТЫ «ДАЛЁКАЎСХОДНІ ВУЧОНЫ»

### Як пажывае ваша печань?

**У Ціхаакіянскім інстытуце біяарганічнай хіміі атрыманы новы прэпарат, які валодае гепатаахоўным дзеяннем, якое па большасці паказчыкаў значна пераўзыходзіць дзеянне сілібора. Асаблівай яго перавагай з'яўляецца практычна поўная адсутнасць таксічнасці. У эксперыментах на пацуках і трусах, якія атрымлівалі прэпарат 6 месяцаў, не выяўлена адмоўнага ўздзеяння на масу цела, сардэчна-сасудзістую і цэнтральную нервовую сістэмы, функцыянальны стан печані і нырак.**

### *Аб гэтым варта падумаць*

Згодна з данымі Інстытута марской геалогіі і геафізікі, раён Паўднёвых Курыл на працягу 5 гадоў, пачынаючы з мінулага года, будзе схільны да землетрасенняў магутнасцю прыкладна 7,5 бала. На працягу мінулых 14 гадоў, адзначаюць вучоныя, землетрасенняў такой сілы ў раёне не адбывалася. Прагноз тычыцца тых астравоў, якія вельмі хочацца атрымаць Японіі ў якасці «паўночных тэрыторый».

### Цэнтр здаровай ежы

***Менавіта так можна назваць арганізаваны пры Далёкаўсходнім камерцыйным інстытуце навукова-вытворчы цэнтр «Акіян». Распрацоўкі цэнтра ў асноўным звязаны з новымі рэцэптурамі, тэхналогіямі харчовых тавараў — безадходнымі, рэсурсазберагаючымі. Цэнтр нацэлены на эксперыменты з дзікаросамі, рыбай, малюскамі, мясам, зернем, агароднінай.***

### *У «Знахара» шмат парад*

**«Знахар» — так называецца адзіны ў Расіі часопіс па народных метадах гаючасці. У ім, сцвярджаюць выдаўцы штомесячніка, утрымліваецца унікальная інфармацыя па натуральнаму, прыроднаму аздараўленню, практычныя парады на ўсе выпадкі жыцця, чытачам прадастаўляецца магчымасць вылечыць не толькі цела, але і душу. Спецвыпуск часопіса цалкам прысвечан прадухіленню і лячэнню метадамі народнай медыцыны такога захворвання, як рак. Амаль на 100 старонках выкладаюцца методыкі розных сістэм лячэння, прыводзяцца народныя рэцэпты, табліцы прадуктаў харчавання, расказы анкалагічных хворых, якія здолелі выздаравець.**

**Спіс літаратуры, які выкарыстаны для падрыхтоўкі часопіса, дапаможа тым, хто хоча глыбей пазнаёміцца з усімі аспектамі тэмы.**

## «КАСМІЧНЫЯ» ВЕСТКІ

### *«ФАТАЛЬНАЯ» СУСТРЭЧА*

**Каметы таксама паміраюць, і за гэтым калі-некалі можна назіраць. Усё гаворыць пра тое, што канец каметы 1993 будзе незвычайным. Амерыканцы, якія адкрылі яе 25 сакавіка 1993 года, не паверылі сваім вачам: можна падумаць, што гэта была «разбітая камета». Выяўленні, атрыманыя за гэты час, пацвярджаюць — камета не мае цэльнага ядра, гэта, хутчэй, каля 20 яго фрагментаў. Што ж з ёй здарылася? Магчыма, што каля года таму яна занадта наблізілася да Юпітэра. Пад уплывам гравітацыйнага прыцягнення планеты ядро, якое складаецца з ільду і пылу, раскалолася на кускі. Зараз камета круціцца вакол Юпітэра. Па падліках, яна, хутчэй за ўсё, разаб'ецца аб планету недзе ў ліпені 1994 года. Гэта будзе сапраўды «касмічнае» відовішча, бо кінетычная энергія ад сутыкнення пераўзыдзе энергію некалькіх мільярдаў атамных бомбаў. Шкада толькі, што сутыкненне адбудзецца з боку Юпітэра, які скрыты ад Зямлі. Але пачакаем ліпеня.**

### КАСМАНАЎТЫКА: УНІКАЛЬНЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ

*Праўда, пакуль на Зямлі. У Інстытуце медыкабіялагічных праблем (Масква) пачаўся навуковы эксперымент, які прадугледжвае працяглае знаходжанне групы жанчын ва ўмовах так званай гіпакінезіі — адноснай нерухомасці. Яго мэта — вывучыць уплыў экстрэмальных умоў на жаночы арганізм і адпаведна ўстанавіць магчымасць эфектыўнай працяглай працы касманаўтак на арбітальных лабараторыях і ў будучых касмічных экспедыцыях.*

*Дарэчы, як паведаміў кіраўнік эксперыменту доктар атрады расійскіх касманаўтаў Барыс Марукоў, на 1994 год плануецца працяглы касмічны палёт, у якім будзе ўдзельнічаць жанчына.*

*У эксперыменце, разлічаным на 6 месяцаў, прымаюць удзел жанчыны ва ўзросце ад 25 да 35 гадоў, якія прайшлі дасканалы медыцынскі адбор з улікам усіх патрабаванняў, прад'яўляемых да касманаўтаў, якія рыхтуюцца да палёту. Чатыры месяцы жанчыны правядуць у гарызантальным становішчы, якое імітыруе ў зямных умовах касмічную гіпакінезію. Як і на касмічных апаратах, яны будуць займацца фізічнымі практыкаваннямі на спецыяльных трэнажорах.*

*Барыс Марукоў лічыць, што жаночы арганізм, у параўнанні з мужчынскім, лепш пераносіць экстрэмальныя ўмовы, хутчэй да іх прыладкоўваецца. Вынікі даследаванняў, як мяркуюць спецыялісты, будуць цікавымі не толькі для касмічнай медыцыны.*

**(По старонках замежнага друку)**

## ВАКАНСІІ

АНК «Институт тепло- и массообмена им. А. В. Лыкова» АН Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантных должностей старших научных сотрудников по специальностям «Теплофизика и молекулярная физика» (1) и «Промышленная теплоэнергетика» (1), научных сотрудников по специальности «Теплофизика и молекулярная физика» (2).

Срок конкурса — один месяц со дня опубликования объявления. Справки по тел. 39-54-91.

**Институт общей и неорганической химии АН Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантных должностей заведующих лабораториями:**

**— лаборатории адсорбентов и катализаторов**

**— лаборатории синтеза стеклообразных материалов**

**— лаборатории физико-химических методов исследования.**

**Срок подачи заявлений — 2 недели со дня опубликования объявления по адресу: г. Минск, ул. Сурганова, 9.**

## *БАЦЬКАЎШЧЫНА*



НА ВЕСНАВЫМ СОНЕЙКУ.

## З НАЗВЫ ГАРАДОЎ

# ДРАГІЧЫН

Назву гэтага райцэнтра Брэсцкай вобласці традыцыйна тлумачаць пры дапамозе этнічнага імя **дрыгавічы** (гл.: Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 109; Трубачев О. Н. В поисках единства. «А кто там идет?» Взгляд на этногенез белорусов // Русская речь. № 4. 1991. С. 88). Даследчыкаў спакушае пэўная сугучнасць двух найменняў — этнічнага і геаграфічнага. Але ж сугучнасць гэтая, перш-наперш, няпоўная, а па-другое, цалкам выпадковая.

Структурна-словаўтваральныя асаблівасці назвы **Драгічын** (наяўнасць відавочнага суфікса **-ін**) паказваюць, што этнонім у яе аснове не ляжыць. Аўтар гэтых радкоў спецыяльна займаўся вывучэннем геаграфічных назваў, утвораных ад этнічных імёнаў (гл. абагульняючую працу па гэтай тэме: Рогалев А. Ф. Этнотопонимия Беларуси (на фоне этнической истории). Гомель, 1993). Дык вось, сярод гэтых, так званых этнатапонімаў, няма ніводнага наймення з суфіксам **-ін, ці -ын.**

Калі мы сустракаем назву, напрыклад, **Мазу́рына** (вёскі Браслаўскага, Міёрскага, Шумілінскага раёнаў) ці **Латы́шына** (фальварак былога Полацкага павета), то яны, хутчэй за ўсё, азначаюць, што адпаведныя населеныя пункты заснаваў нейкі чалавек па мянушцы (прозвішчу) **Мазур, Латыш**— ці што гэтыя пасяленні належалі Мазуру, Латышу.

Суфікс **ін, -ын** той жа што і ў назве **Драгічын,** часцей за ўсё якраз і ўказваў на прыналежнасць. Ёсць і выключэнні. Напрыклад, суфікс **-ін, -ын** у геаграфічных найменнях **Столін, Брагін, Кобрын** меў іншае значэнне, у прыватнасці, тапаграфічнае (назвы **Брагін, Кобрын;** гл. аб гэтых імёнах у нашай кніжцы «Сцежкі ў даўніну: Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся», выдадзенай у 1992 годзе выдавецтвам «Полымя»). Але гэта менавіта выключэнні.

У найменні **Драгічын,** на наш погляд, «закансервавана» верагоднае асабовае імя ці, хутчэй, мянушка **Драгіта, Драгута**. У сваю чаргу гэтая мянушка ўзыходзіць да двухасноўнага славянскага імя **Драгамысл, Драгаслаў, Драгавіт** ці **Драгабуд** з першай часткай **«Драг-», «Дрог-»** у значэнні «дарагі, любы». У паўсядзённым ужыванні такія даволі груваскія імёны скарачаліся, усякаліся, галоўным чынам, за кошт другой часткі. У выніку ўтвараліся ўсечаныя памяншальна-ласкальныя ці павелічальныя мадэлі імёнаў — мянушкі, якія ў далейшым маглі пераходзіць у прозвішчы. Напрыклад, у сучаснай балгарскай мове ўжываюцца двухасноўныя імёны **Драгамір, Драгаслаў, Драгалюб,** але ж ужываюцца і скарочаныя варыянты гэтых імёнаў — **Драган, «Драго», «Дражко».** Сярод беларускіх проазв ішчаў сустракаюцца такія — **Драгун, Драгуль, Драган** (гл.: Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1969. С. 135). Думаецца, што гэтыя прозвішчы маюць такое ж паходжанне, як і нагаданыя балгарскія скарочаныя формы **Драган, «Драго», «Дражко».**

Але вернемся да геаграфічнай назвы **Драгічын.** Існуюць пэўныя падставы меркаваць, што гэтая назва ўзнікла ў заходнеславянскім моўным асяроддзі, паколькі ў ёй адлюстравана нехарактэрнае для ўсходнеславянскіх моў непаўнагалоссе, гэта значыць **Драг-** ці **Дрог-** замест **«Дараг-», «Дорог-», «Дарагічын».** Акрамя таго, назва райцэнтра Брэсцкай вобласці з'яўляецца верагодным «перанесеным» тапонімам. Яе прынеслі з сабой перасяленцы, якія рухаліся з захаду, з тэрыторыі сучаснай Польшчы.

Там, на землях Падляшша, існуе яшчэ адзін, як можна меркаваць, першасны, тапонім **Драгічын** (горад, сёння ў складзе Беластоцкага ваяводства). Менавіта назва падляшскага Драгічына і ўтварылася ад верагоднай мянушкі **Драгіта, Драгута.** А потым у гатовым выглядзе, у форме **Драгічын,** «перавандравала» на ўсход, за раку Мухавец, дзе і ўзнікла яшчэ адно паселішча з падобнай назвай.

Двухасноўныя імёны з першай часткай **Драг-** не былі характэрнымі для ўсходнеславянскай тэрыторыі. Імя **«Даргабонд» («Дрогобуд»)** вядома сярод палабскіх, паморскіх славян. Ці не ўцекачы з міжрэчча Лабы (Эльбы) і Одры (Одэра), якія ратаваліся ад германскіх захопнікаў, заснавалі польскі Драгічын, а, магчыма, і беларускі (сучасны райцэнтр Брэстчыны)? Польскі Драгічын згадваецца ўпершыню ў 1177 годзе, а беларускі — у 1452 годзе (згадванне і час заснавання паселішчаў, як правіла, не супадаюць).

Увогуле падляшскі Драгічын размешчаны на тэрыторыі, дзе адчуваецца значна ўсходнеславянскі (беларускі) моўны ўплыў. Не выпадкова, у 1510 і 1567 гадах назва горада зафіксавана ў форме **«Драгічын»** (гл.: Рымут К. Назвы гарадоў Польшчы. Вроцлаў, Варшава, Кракаў, Гданьск, Лодзь, 1987. С. 65; на польскай мове). Ці не можа гэта служыць пэўным доказам усходнеславянскага, а не заходнеславянскага паходжання назвы **Драгічын?**

Не выключаны і яшчэ адзін варыянт тлумачэння. Польскі даследчык Я. С. Атрэмбскі лічыў, што ў назве **Драгічын** адлюстравана... яцвяжскае асабовае імя **Даргут** («Драгічын — мясцовасць, якая належыць чалавеку па імені Даргут»). Польскі вучоны зазначае, што асабовае імя «Даргель» было вядома ў прусаў; ён жа ўказвае на польскія імёны **«Дрогомысл», «Дроговит»** і на паўднёварускае імя **«Дорогобытъ»,** ад якога ўтварылася найменне горада Драгобыча ў Прыкарпацці. Аб яцвяжскіх вытоках Драгічына (падляшскага) сведчыць і заўвага польскага гісторыка Я. Длугаша, які называў гэты горад «першай і самай галоўнай крэпасцю народа яцвягаў» (гл. пра гэта ў кн.: Вопросы славянского языкознания. М., 1961. С. 3 — 8; тут змешчаны змястоўны артыкул Я. Атрэмбскага «Язык ятвягов»).

**А. РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»**

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 311, 313. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 23.03.94 г.
Зак. 1022
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.